# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 28 (698) 13 ЛІПЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## У Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

26 чэрвеня г.г. адбылося першае ў новай кадэнцыі пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Адкрыў пасяджэнне кіраўнік Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП Уладзіслаў Канстанчук. Ён прадставіў новы склад Камісіі, пакліканы пастановай Экзекутывы ВК ПАРП і прапанову новага прэзідыума Камісіі. Члены Камісіі аднадушна выбралі прэзідыум Камісіі ў складзе: старшыня — Збігнеў Дамброўскі, начальнік аддзела Беластоцкай куратарыі; намеснік старшыні — Аляксандр Дазідзюк, працаўнік Аддзела прапаганды ВК ПАРП, сакратар — Станіслаў Зялінскі, інструктар Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП. Членамі новай Нацыянальнай камісіі пакліканы: Георгі Валкавыцкі — галоўны рэдактар «Нівы»; Гэрш Гакмаер — — пенсіянер, член Праўлення аддзела Грамадска-культурнага таварыства яўрэяў у Беластоку, Казімеж Дэркоўскі — загадчык Аддзялення культурна-асветнай працы Аддзела культуры ВРН; Янка Зенюк — сакратар ГП БГКТ; Ян Капчук — інспектар асветы з Гайнаўкі; Анна Келч — член ВК ПАРП, працаўніца тэкстыльнай фабрыкі імя Сяржана; Мікалай Куц — загадчык аддзела УСВ; Стэфан Кэнска — візітатар Беластоцкай куратарыі; Багдан Назарэвіч — настаўнік, намеснік старшыні аддзела Украінскага грамадска- культурнага таварыства ў Бэнях Мазурскіх; Яўгеніюш Петрашкевіч — генеральны сакратар ГП Літоўскага грамадска-культурнага таварыства і Мікалай Трафімчук — член ВК ПАРП, старшыня сельскагаспадарчага кааператыва ў Дарожках, Беластоцкага павета.

Працяг на стар.4



Ля новай гасцініцы ў Белавежы.
Фота Цаф — Сінько

За народную ўладу

## КАМЕНДАНТ ПУХАЛЬСКІ І ЯГО СЫНЫ

Пачаўся 1945 год. Пад Варшавай адгрымела кананада пакрушальнага наступлення. Розныя слыхі, розныя талкаванні хадзілі сярод народа: будзе самастойная польская дзяржава, ці яе не будзе? У Беластоку, у Бельску, а нават у Боцьках былі ўжо, працавалі яе органы: ваяводства, староства, гміна. «Гэта толькі камуністычны абман, — шапталі атуманеныя нянавісцю ворагі новага парадку. — Яны вам жонак адбяруць, у калгасы загоняць, з катла супольнага карміць будуць, касцёлы на клубы заменяць. Гэта не наша, не праўдзівая ўлада. Наш урад — пакуль што яшчэ ў Лондане, але ўжо незадоўга абсталюецца ён... яго трэба слухаць.»

Адно толькі было пэўнае: няма гітлераўцаў! Фронт ужо недзе пад Берлінам. Не вернуцца назад, праклятыя гады! Дык можна пагуляць, хаця б гэтым пацешыцца.

Вясёла прайшлі запусты ў Боцьках. У госці да каменданта боцькаўскай камендантуры грамадзянскай міліцыі Аляксандра Пухальскага прыехала з Гайнаўкі жонка Разалія, быў камендант міліцыі з Сямяціч, разам гулялі бацюшка і два ксяндзы. Згодна і шчодра лілася самагонка. Гучалі песні. Музыканты гралі полькі, абертасы, факстроты. Танцавалі. А па кутках некаторыя шапталі: «Паглядзі, гэта тая чырвоная свіння — і вачыма паказвалі каменданта Пухальскага. — Гэта ён тут хоча завесці камуністычны парадак. За падаткамі падуладных сваіх гоніць. Пра Ліпеньскі Маніфест балбоча, панскую зямлю падгаварвае браць, бы сваю».

«Не пацешыцца доўга, сабака!» — адпавядаў другі.

На другі дзень камендантава жонка сабралася ехаць назад у Гайнаўку. Муж пастараўся ёй падводу. Іншай камунікацыі яшчэ не было. Быў 20-ты дзень лютага 1945 года.

— Алесь, — звярнулася Разалія да мужа, — едзь са мною. Дзеці чакаюць, доўга ўжо цябе не бачылі, пабудзеш пару дзён і вернешся.

— Не магу, даражэнькая, — гаварыў Аляксандр хаваючы ў санках падаркі сваім тром сынам і адной дачцы, сярод якіх найстарэйшаму было 17 год, а наймалодшаму — 9. — Не магу, — паўтараў. — Мае да нас хтосьці прыехаць з Беластока. Мушу быць на месцы. Трэба людзей разасляць па вёсках.

Дык Разалія паехала адна. Яе сэрца білася неяк неспакойна. Хіба таму, што даведалася, што папярэдняга каменданта міліцыі ў Боцьках нядаўна забілі гэтыя «лясныя». «Прыеду, незадоўга прыеду да дзяцей! Пацылуй іх моцна!» — прыпомніла словы мужа, якія ён сказаў, калі сані заскрыпелі на снезе. Ганарылася ім. Добры быў муж і бацька. Працавіты, дбайны, усе яго любілі, не меў ворагаў. І цяпер аж камендантам стаў!

Дагэтуль яны былі батракамі. Усю

Працяг на стар.4




З паняцця гаспадара вынікае найбольшая дбайнасць і знаходлівасць, значыць, самыя цёплыя адносіны да справы. Гаспадар зямлі не дапусціць да запушчэння яе, ён любіць яе; гаспадар хаты не дапусціць да заняпаду яе, бо ён па-галубінаму беражлівы да гнязда свайго жыцця. Гаспадар — гэта найвышэйшая назва старанліваму чалавеку.

Гаспадарка Гарустовічаў, Ольгі і Яўгеня, гэта школа ў Дубінах. І колькі б разоў я не пабываў у той школе, заўсёды знаходжу нешта новае, нешта прыдбанае ёй, школе, а тым самым і вёсцы, якая сапраўды справядліва ганарыцца сваёй школай.

Сёння, стоячы на чыстым дзядзінцы, гавару з Яўгенем Гарустовічам пра планы пабудовы яшчэ аднаго будынка, што будзе закончаны ў месяцы лістападзе. Прызначаны на прышкольныя майстэрні. І ў вачах Гарустовіча, як кіраўніка школы, бачу тую непадкупную задаволенасць ды ўпэўненасць. У гэтым нічога няма з позы, нічога з нарочнага: ён проста пэўны помачы з боку бацькоў дубінскіх дзяцей, вёскі, як кожная вёска. І так: пустакі робяцца сваім промыслам, фундаментаванне таксама не гаворачы ўжо пра звозку пяску і іншыя неспецыялістычныя работы. Прыклад, жывы прыклад, як можна, карыстаючыся скупымі інвестыцыйнымі датацыямі, будаваць з размахам на меру патрэб, а не магчымасцей.

Дубіны, як кожная вёска, дзе ёсць школа са сваімі важнымі патрэбамі. Важнымі, бо датычыць выхавання дзяцей, прыстасавання да жыцця новых і новых пакаленняў будучых Дубін. Аднак не ўсюды, не ў кожнай вёсцы, можна адчуць столькі цеплыні ды дбайнасці пра сваю школу, вялікую школу, у якой вучыцца 169 дзяцей і 32 дарастаючых дзяўчат ды хлопцаў у сельскагаспадарчай СПР. Тут, у Дубінах, зразумета тая мудрасць, што адзін настаўнік не выхавае дзіцяці: патрэбна ўзаемная выхаваўчая праца і настаўніка і бацькоў дзіцяці. Члены бацькоўскага камітэта школы прыходзяць на ўрокі, адчуваюць сваю выхаваўчую ролю нараўні, не звальваюць усяго на настаўніка. Вынік такі, што ў мясцовай школе вырастае амбітная моладзь, якая ведае, чаго хоча ад жыцця. Зараз няма ніводнага выпускніка восьмага класа, які б не хацеў вучыцца далей.

Вучоба адбываецца на здаровых падставах зацікаўлення роднай вёскай, ваколіцай і гордасцю за сваю зямлю. Па-

Працяг на стар.4

На Ляўкоўскім цагельным заводзе.
Фота Цаф — Сінько



# ◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### КРЫЗІС У ІТАЛІІ

Урад Італіі, на чале якога стаяў Мар'яна Румар, 5 ліпеня г. г. падаў у адстаўку. Як памятаем, быў гэта кааліцыйны ўрад, у склад якога ўваходзілі сацыялісты П. Нэні. Зараз у сацыялістаў Італіі наступіў далейшы раскол. Так званыя сацыялістычныя дэмакраты, выступаючы супраць супрацоўніцтву з камуністамі ў асноўных галінах барацьбы рабочага класа з капіталам, зрабілі раскол. Такім чынам у Італіі пачало дзейнічаць аж тры сацыялістычныя партыі.

Ацэньваецца, што гэта найвялікшы ўрадавы крызіс, які Італія перажывала пасля вайны. Назіральнікі сцвярджаюць, што ў такой сітуацыі прэзідэнт Сарагат развяжа парламент і распіша новыя выбары.

### 25-ГОДДЗЕ Ў МАСКВЕ

У многіх краінах свету адбываюцца ўрачыстасці з нагоды 25-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі. Найбольш урачыста адзначае свята Народнай Польшчы Савецкі Саюз. Карэспандэнты даносяць, што такой колькасці выставак і іншых мерапрыемстваў з польскай тэматыкай не сустракалася дагэтуль у СССР.

У СССР праводзяцца дні польскай культуры, у Маскве адкрыта аж 7 выставак, савецкі рынак атрымаў 107 тысяч польскіх пласцінак, якія тут карыстаюцца вялікай папулярнасцю, ва ўсёй краіне адбываюцца кірмашы польскіх кніжак і вечарыны.

### НОВЫ ПРЭЗІДЭНТ ФРГ

1 ліпеня г. г. у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі адбыліся ўрачыстасці звязаныя з увядзеннем на новага прэзідэнта сацыялдэмакрата Густава Гайнемана.

Словы, якія сказаў з гэтай нагоды новы прэзідэнт рэспублікі, выклікалі зноў незадавальненне ў ФРГ. Гайнеман, так як і адразу пасля выбараў яго на прэзідэнта, заклікаў усіх немцаў, каб не ўхіляліся даць адказу на пытанне, як магло дайсці ў Германіі да нацыяналсацыялізму. Гайнеман сказаў таксама, што функцыю прэзідэнта будзе выконваць толькі на працягу адной кадэнцыі, таму, што ведае, на колькі непапулярнымі з'яўляюцца выказаныя ім думкі. Прэзідэнт ФРГ сказаў, што ў наступных выбарах не будзе кандыдаваць на прэзідэнта, бо ніхто на яго не будзе галасаваць.

### РЭФОРМА Ў ПЕРУ

Перу зноў сталася вядомай у свеце краінай. Пасля нацыяналізацыі амерыканскага нафтавага таварыства ІПЦ перуанскі ўрад апавясціў правядзенне сельскагаспадарчай рэформы. Мае гэта не толькі антыфеадальны характар, але таксама і антыкаланіяльны.

Перуанская вёска, як і ў многіх іншых краінах Лацінскай Амерыкі, з аднаго боку мае групку вялікіх уладальнікаў зямлі, а з другога — каля 5 мільёнаў беззямельных. І што характэрнае, сярод уладальнікаў перуанскай зямлі знаходзяцца не толькі перуанцы, але таксама зямельныя прадпрыемцы са Злучаных Штатаў, Японіі, а таксама Заходняй Германіі. **А. К.**



## БССР

### ЦЭНТРАЛЬНАГА

30 чэрвеня адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. З дакладам «Аб выніках міжнароднай Нарады камуністычных і рабочых партый» выступіў першы сакратар ЦК П. Машэраў.

Пленум адобрыў і падтрымаў дакументы Нарады, палітычную лінію і практычную дзейнасць ЦК КП Савецкага Саюза, накіраваную на ўмацаванне адзінства сусветнага камуністычнага руху на прынцыпах марксізма-ленінізма і пралетарскага інтэрнацыяналізму.

### СЛАВАЦКАЙ

Мінск наведала дэлегацыя актывістаў славацкай нацыянальнай арганізацыі Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы. У складзе дэлегацыі — удзельнікі Славацкага паўстання, ветэраны партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі, былыя салдаты Першага чэхаславацкага армейскага корпуса.

Дэлегацыю ўзначальваў міністр лясной і воднай гаспадаркі Славацкай Сацыялістычнай Рэспублікі Франтышак Гагара.

### ЖАБІЦКІ

Генадзь Жабіцкі, першы сакратар ЦК камсамола Беларусі, з нагоды Дня моладзі змясціў артыкул на старонках маладзёжнай беларускай газеты «Чырвоная змена». У артыкуле піша м. ін.:

«Героем нашага часу становіцца не толькі той, хто адважна ўступае ў барацьбу з прыродай, адпраўляецца ў неабжытыя краі, але і той, хто смела вядзе бой за прагрэсіўныя метады вытворчасці, хто ўмее шчыра працаваць, выкарыстоўваць сучасныя дасягненні навукі, хто шукае новае ў сваёй рабоце, вымярае свае крокі і ўчынкі з высокімі камуністычнымі ідэаламі».

### ХАТЫНЬ

Вёску Хатынь, што была некалі на Міншчыне, 22 сакавіка 1943 года сустрэў лёс падобны лёсу нашага Райска: яе поўнасцю спалена, жыхароў расстраляна. На Беларусі акупанты цалкам знішчылі падобным чынам 136 вёсак, якія пасля вайны ўжо не адрадзіліся.

Нядаўна адбылася цырымонія закладкі ў урны мемарыяльнага комплексу «Хатынь» зямлі з вёсак, знішчаных фашыстамі. Комплекс «Хатынь» гэта мемарыяльныя магілы тых вёсак.

У цырымоніі прынялі ўдзел кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі на чале з першым сакратаром ЦК КПБ П. Машэравым і Старшынёй Савета Міністраў БССР Ц. Кісялёвым.

### ЖУКАЎ

Праслаўлены палкаводзец Георгі Жукаў падарыў Гомельскаму краязнаўчаму музею сваю кніжку мемуараў «Успаміны і роздумы». Разам з кніжкай Жукаў прыслаў пісьмо, у якім піша: «Беларусь я лічу другой сваёй радзімай, дзе больш як 18 гадоў вучыўся ваеннаму майстэрству»...

### ВЫЗВАЛЕННЕ

Беларускі друк паведамляе, што маскоўскае выдавецтва «Наука» рыхтуе зборнік «Вызваленне Беларусі... 1944 год», прысвечаны 25-годдзю вызвалення беларускай зямлі. У ліку аўтараў, што прыслалі ў зборнік арыгінальныя матэрыялы, якія раней не друкаваліся, — маршалы Савецкага Саюза Г. К. Жукаў, А. М. Васілеўскі, І. Х. Баграмян, К. К. Ракасоўскі, М. І. Крылоў, галоўны маршал авіяцыі К. А. Вяршынін, маршал артылерыі В. І. Казакоў і іншыя военачальнікі. **(С. Я.)**



## ПОЛЬШЧА

### І ПАСЯДЖЭННЕ

27 чэрвеня сабраўся на першую сваю сесію нававыбраны сейм. Сейм выбраў новага маршала, якім ізноў стаўся **Чэслаў Выцэх.** Адбыліся таксама выбары Рады Дзяржавы, старшынёю якой выбрана **Мар'яна Спыхальскага.** Упершыню ў састаў Рады Дзяржавы ўвайшлі: **Зыгмунт Москва** — як намеснік старшыні, **Людамір Стасяк** — як сакратар, члены: **Канстанты Дамброўскі, Стэфан Ігнар, Мечыслаў Мочар, Балеслаў Румiньскі.** Старшынёю Рады Міністраў ізноў выбрана **Юзэфа Цыранкевіча.** У склад Рады Міністраў зацверджана 3 новых міністраў. Новым старшынёю Найвышэйшага Бюро Кантролю (НІК) выбрана **Зэнана Новака.**

Наступна ў час пасяджэння сейма прэм'ер Юзэф Цыранкевіч зачытаў экспазэ. Асноўнай тэмай выступлення прэм'ера былі заданні ўрада ў сувязі з пераходам на новыя метады гаспадарчага развіцця. Увядзенне ў жыццё гэтых метадаў адбывацца будзе паралельна з паглыбленнем гаспадарчага супрацоўніцтва паміж сацыялістычнымі краінамі.

### ПРАБЛЕМЫ II ПЛЕНУМА

Праблемам гаспадарчага развіцця а перш за ўсё рэалізацыі пастаноў II Пленума ЦК партыі прысвечана была нарада эканамічных сакратароў Ваяводскіх камітэтаў партыі, якая адбылася 30 чэрвеня ў Варшаве. Нараду вёў сакратар ЦК партыі Балеслаў Яшчук. Пераанaлізаваў ён мерапрыемствы, якія былі прыняты за апошнія 3 месяцы дзеля рэалізацыі пастаноў II Пленума адносна пераходу да новых метадаў планавання і гаспадарчага развіцця. Сцвердзіў ён, што не гледзячы на вялікія намаганні партыйных устаноў у абучэнні гаспадарчага актыву новым метадам гаспадаравання, толькі ў малой ступені ўдалося пераламаць схематызм думак, задаўненыя звычкі і схільнасці да экстэнсіўных метадаў гаспадаравання. На доказ гэтага тав. Балеслаў Яшчук прывёў факт, што на нарадах выступленні дырэктараў гаспадарчых прадпрыемстваў зводзіліся часта да патрабаванняў пабольшання інвестыцыйных сродкаў і колькасці рабочых. У далейшай частцы свайго выступлення тав. Балеслаў Яшчук сканкрэтызаваў заданні партыйных арганізацый і ўстаноў на месяц ліпень у галіне працы з гаспадарчымі прадпрыемствамі.

### МАНІФЕСТАЦЫЯ ДРУЖБЫ

5 ліпеня на гарадскім стадыёне ў Зялёнай Гужэ адбылася вялікая маніфестацыя прысвечана чвэрцьстагоддзю Народнай Польшчы, 20-годдзю ГДР і 19-гадавіне падпісання дня 6 ліпеня 1950 года гістарычнага Згажэльскага Дагавору, які стаўся рашучай падзеяй у галіне польска-германскіх адносін і мае асноўнае значэнне для бяспекі Еўропы. У час урачыстасці з прамовамі выступілі: ад Польшчы — намеснік прэм'ера Пётр Ярашэвіч, ад ГДР — намеснік прэм'ера ГДР — Курт Фіхтнер. **(п)**



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕМУМ ВАЯВОДСКАГА КАМІТЭТА ПАРТЫІ

У Беластоку адбыўся Пленум Ваяводскага камітэта партыі. Вёў яго I сакратар ВК партыі А. Лашэвіч. Пленум ацаніў дзейнасць партыйных арганізацый у выбарчай кампаніі ў сейм і рады нарадовыя. З дакладам выступіў сакратар ВК партыі А. Младзяноўскі.

Матэрыялы Пленума паказалі поўную падтрымку палітыкі партыі і народнай улады ў днях выбараў. У перадвыбарчы час праводзілася многія сустрэчы з насельніцтвам, ішлі непасрэдныя размовы. Спрыялі яны атмасферы шчырасці і творчага ўздыму. Сустрэчы такія павінны, згодна з думкай Пленума, прадаўжацца.

У дыскусіі над дакладам прынялі ўдзел партыйныя дзеячы з паветаў і грамад. Яны падзяліліся ўласным вопытам, прывялі водгукі з вёсак. На шматлікіх перадвыбарчых сустрэчах насельніцтва беластоцкай вёскі ставіла рад прапаноў, рэалізацыя якіх павядзе нас да далейшага паляпшэння метадаў працы, да лепшай гаспадарнасці і да збліжэння чалавека з выбранай ім уладай.

Таварыш А. Лашэвіч паінфармаваў на Пленуме таксама пра ход III Пленума ЦК партыі ў Варшаве.

### ПЛЕНУМ ГАРАДСКОГА КАМІТЭТА ПАРТЫІ

У сваю чаргу таксама Пленум гарадскога камітэта партыі ацаніў ход выбарчай кампаніі ў горадзе Беластоку. Пленум сцвердзіў, што ў перыяд перадвыбарчай кампаніі рабочыя горада Беластока прынялі абавязацельствы на суму 265,8 тыс. зл. і грамадскія чыны на суму 44,9 тыс. зл. Рабочая моладзь горада Беластока сягнула вышэй: яе абавязацельствы раўняюцца суме 8,5 мільёна зл., а грамадскія чыны — 1,5 мільёна зл.

### ЖАНЧЫНЫ Ў ВЫБАРАХ

У апошніх выбарах у сейм і рады нарадовыя жанчыны Беластоцкага ваяводства атрымалі 1415 мандатаў. Найбольш жанчын радных увайшло ў ГРН-ы — 933 (у папярэдняй кадэнцыі 596).

### ПЕРШАЕ МЕСЦА ДЛЯ БЕЛАСТОКА

У агульнакраёвым спаборніцтве Беластоцкая рыбная цэнтраля заняла першае месца і атрымала сцяг міністра плавання.

### У ВЫШЭЙШЫЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ

2312 кандыдатаў прыступіла да ўступных экзаменаў у вышэйшыя навуковыя ўстановы горада Беластока. У тым: у Вышэйшую настаўніцкую школу і Адміністрацыйнае студыум здавала 831 асоба (на 430 месц), у Медыцынскую акадэмію — 772 (на 240 месц), у Вышэйшую інжынерскую школу — 709 (на 300 месц).

Арганізаванае ў мінулым годзе стаматалагічнае аддзяленне Беластоцкай медыцынскай акадэміі прыняло 40 асоб.

У Вышэйшай інжынерскай школе найбольшае зацікаўленне было электрычным аддзяленнем, 3,1 асоб на адно месца.

У Вышэйшай настаўніцкай школе найбольшай папулярнасцю карысталася аддзяленне гуманістыкі.

Цікавы сацыяльны склад кандыдатаў: дзеці рабочых і сялян у Вышэйшай настаўніцкай школе складалі 71%, у Вышэйшай інжынерскай школе — 58%, у Медыцынскай акадэміі — 48%. **(вл)**




### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА

4 ліпеня адбылося першае супольнае пасяджэнне нававыбранага прэзідыума Галоўнага праўлення і рэвізійнай камісіі. Першым пунктам пасяджэння была абмяркоўка спосабаў рэалізацыі пастаноў і прапаноў удзельнікаў VI з'езда БГКТ, а таксама справаздачна-выбарчых канферэнцый усіх 10-ці аддзелаў. Сакратар ГП Янка Зенюк шырока абмеркаваў арганізацыйныя гарантыі выканання пастаноў і прапаноў з указаннем канкрэтных тэрмінаў. У дыскусіі над гэтым пунктам асабліва многа было прысвечана часу справам этнаграфічнага музея БГКТ у Белавежы, справам эстрады ГП «Лявоніхі» і кадравым справам БГКТ.

Пасля ўдзельнікам пасяджэння сакратар ГП расказаў, як праходзіць у аддзелах адзначэнне 25-ай гадавіны Народнай Польшчы і якія мерапрыемствы ў сувязі з гэтай юбілейнай датай будуць адбывацца ў ліпені, жніўні і верасні.

Асобным пунктам пасяджэння была інфармацыя Мікалая Гайдука, рэдактара календара на 1970 год, аб змесце календара. Прысутныя выказалі незадавальненне, што каляндар яшчэ не падрыхтаваны да друку і таму зноў можа не выйсці з друку да канца гэтага года.

Далей члены прэзідыума і рэвізійнай камісіі пазнаёміліся з матэрыяламі НІК (Найвышэйшая ізба кантролю). НІК у чэрвені правяла кантроль дзейнасці Беларускага таварыства і выявіла некаторыя недахопы.

Пятым пунктам пасяджэння было стварэнне выдавецкай камісіі, якая будзе дарадчым органам прэзідыума адносна друку тых ці іншых матэрыялаў. У склад гэтай камісіі ўвайшлі наступныя асобы: Міхась Хмялеўскі, Георгі Валкавыцкі, Уладзімір Паўлючук, Аляксандр Баршчэўскі, Мікалай Гайдук, Вінцук Склубоўскі, Іван Чыквін, Ніна Багроўская, Люба Раманюк і Віктар Швед.

Пастаноўлена таксама, што ГП павінна прыняць да працы такога чалавека, які займаўся б усімі выдавецкімі справамі.

На прапанову старшыні ГП члены прэзідыума прынялі наступныя абавязкі: 1) Мікалай Самоцік — адказны за працу Гайнаўскага аддзела БГКТ і за справы музея, 2) Мікалай Гайдук — адказны за працу Бельскага аддзела і асветныя справы, 3) Аляксандр Баршчэўскі — адказны за працу Варшаўскага аддзела і за літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», 4) Шымон Шыманюк — за Сямяціцкі аддзел і за супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі, 5) Уладзімір Юзвюк — за Гданьскі аддзел і за навуковы гурток, 6) Іван Зенюк — за арганізацыйную працу ГП і за справы культуры, 7) Міхась Хмялеўскі — за гарадскі аддзел у Беластоку і за выдавецкія справы, 8) Расціслаў Мазалеўскі — адказны за працу Сакольскага і Дуброўскага аддзелаў, 9) Мікалай Матэйчык — адказны за працу Гарадоцкага і Міхалоўскага аддзелаў.

У вольных прапановах былі закрануты пытанні прыналежнасці БГКТ да Беластоцкага таварыства культуры, праца інструктараў ГП у паасобных аддзелах, справы, якімі павінна заняцца прэзідыум у гэтым годзе, спосабы распаўсюджвання кніжак і грампласцінкі з песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага і г. д.

У пасяджэнні прэзідыума ўзялі ўдзел таксама прадстаўнік КВ Станіслаў Зялінскі і прадстаўнік ВРН Мікалай Куц. (мх)

НАСУСТРАЧ 25-ГОДДЗЮ

# ЛЮДЗІ БЕЛЬСКІХ БІБЛІЯТЭК



Дзеці ў бібліятэцы — адна з прыгажэйшых карцін. Дзіцячую пазычальню ад яе паўстання вядзе ў Бельску 10-цігадовая бібліятэкарка Надзея Трафімюк.

Бельская павятовая і гарадская бібліятэка прайшла доўгі шлях, пакуль кніжкі яе — бясцэнны скарб людскага розуму — знайшлі годны сябе і ціхі прытулак у новай кватэры. У годзе 25-цігоддзя на весну ў Бельску пры галоўнай вуліцы Міцкевіча, але далей ад вуліцы, у зацішшы кнігарні, быў адкрыты павільён бібліятэкі — толькі другі такі ў ваяводстве, самастойны будынак бібліятэкі, у якім непадзельна пануе кніжка і тыя, хто яе любіць. Два словы выяснення тут аб «жыллёвай» базе беластоцкага бібліятэкарства. Яна ўсё яшчэ надта цяжкая, бібліятэкі не маюць дзе жыць і працаваць, але будавацца новыя бібліятэкі будуць у новыя надыходзячыя гады.



Бася Крупіш закончыла пачатковую школу. З 14 прадметаў па 11 мела пяцёркі. Ці не таму, што часта яна госціць у бібліятэцы і дасканала арыентуецца ў кніжных каталогах?

Бельск сваю бібліятэку ўжо мае, і людзі ідуць сюды, каб у настроі спакою сесці за новыя сталы ў прыгожай чытальні і піць з крыніцы невычэрпнай веды кніжныя.

Найбольш прагныя гэтых ведаў з'яўляюцца дзеці (аб чым заўсёды паведамляю з велізарнай радасцю). У дзіцячую пазычальню ад першых гадзін яе адкрыцця ідуць яны, новае пакаленне, распаўзаюцца сярод лёгкіх полак з кніжкамі, углядаюцца, дакранаюцца кніжных хрыбтоў, задумоўваюцца. Люблю назіраць дзяцей у бібліятэцы, іх тагдышні спакой і задуменнасць. Дзеці ў бібліятэцы — гэта адна з прыгажэйшых карцін жыцця. Намаляваў бы яе які мастак!

Бельская бібліятэка мае ў самым горадзе, як і ў грамадскіх бібліятэках (іх 18, у 9 з іх ёсць чытальні, а пры далейшых 7 так званыя чытальніцкія куткі на 8—12 месц) сваіх ужо верных людзей. Маю тут на думцы бібліятэкараў. Кадра бельская даволі стабілізаваная, а гэта дасягненне не благое, у сувязі з тым, што працаваць у бібліятэцы цяжка, а і заробак не найвышэйшы. З тым большай прыемнасцю гаворыцца з людзьмі бельскіх бібліятэк, якія па 7, 10, 16 і 18 год верна служаць кніжцы і людзям на сваіх бібліятэкарскіх пастах. Абсалютная большасць з іх — жанчыны (яшчэ адзін аргумент на жаночую вернасць кожнай прыгожай ідэі).

Але ўзначальвае бельскую бібліятэку мужчына, **Арцём Чыквін**, кіраўнік яе ад 1953 года. Цярпліва ўзносіў гмах бельскага бібліятэкарства ў горадзе і вёсках. Старэйшым бібліятэкарам з'яўляецца **Яніна Лах** — цяпер інструктар павятовай бібліятэкі. Кіраўнік кажа, што адну яе застаў, калі прыйшоў у 1953 годзе на кіраўніка яшчэ рассыпанай і беднай бібліятэкі.



У пазычальні для дарослых спатыкаем сімпатычную Марыю Казлоўскую.



Верныя інструктары бібліятэкі (злева) Яніна Лах і Лідзія Радышук.

16 год працуе **Галіна Нядзведзкая,** 11 год — **Лідзія Радышук**, 10 год — **Марыя Казлоўская,** 10 год — **Надзея Трафімюк.** Такі ён штаб бельскага бібліятэкарства, які толькі цяпер у новых умовах прыступіў да генеральнага наступлення над кніжкай — метадычнай навуковай апрацоўкі кнігазбору.

Нібы рукі павятовай бібліятэкі рассеяны па грамадах і вёсках тамтэйшыя бібліятэкары, часта таксама «старыя», як тыя з бельскай цэнтралі. У Рудцы 15 год працуе **Станіслава Антаняк,** у Тапчэве 14 год **Зыгмунт Сабешчанскі,** у Кальніцы 8 год **Рышард Багінскі,** у Вышках 8 гадоў **Марыя Максымюк.**

З меншым стажам, але не меншай любоўю да працы назавем **Валю Андрэюк** з Рыбал і **Зіну Кудэрскую** з Галадоў. З выпадку 25-цігоддзя ўсім ім — бібліятэкарскаму авангарду складаем нашыя пажаданні, каб не адступалі ў баі за чытача.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

фота ЦАФ — Сянько



Новы павільён бельскай павятовай і гарадской бібліятэкі.





# ЗЯМЛЯ РЭДЛІНСКАГА

**Новая кніжка Эдварда Рэдлінскага называецца — «Я ў нервовай справе». Зборнік рэпартажаў. Але хай хто не падумае, мяркуючы па загалоўку, што гэта кніжка поўная баявой публіцыстыкі. Толькі баявой публіцыстыкі. Яна ёсць, але не ад яе накочваюцца слёзы, не ў ёй бачу душу і сумленне Рэдлінскага, хлопца ад падляшскай мяжы, радаснага ў радасці зямлі нашай, сумнага ў смутку яе. У яго занадта адкрытае сэрца і душа шчырая, каб магчы пісаць рэчы разважлівыя аж да холаду, ад якіх адно мароз логікі, асэнсаванасці, разліку.**

**Рэдлінскі закаханы. Закаханы ў зямлі роднай: у небе дзяцінства, у лугах маладосці, у далёкасці гасцінцаў жыцця. Чытаючы ягоныя рэпартажы дзіўна выразна відаць тое, што ён перажыў, чым усхваляваўся і заплакаў — ад таго, чым толькі зацікавіўся, што ўсяго падінтэлектуалізавала яго. Гэта асабліва адчувальнае ў рэпартажы «Астанкі», пра Грабарку, свята вялікае праваслаўнае і гора вялікае людское. «Жанчына ў саматканай спадніцы абаперлася плячыма аб дрэва, затаіўшы ў хустцы плач; я ледзь змог вычытаць літары ў пагнілых раўчаках: Штоб Міхал з вайны вернулся». (стар. 43). Або рэпартаж «Дажынкі», дзе сум праўдзіва чалавечы, як у гаспадара, што глядзіць на патратаванае жыта, якое падымаецца і будзе з яго хлеб. Народная святасць да хлеба і працы рук ёсць у сэрцах малагодкаў і старых, яна патанула ў аказійнай начальніцкай п'янцы і гульнях моладзі, але яна ёсць! «— У поце чала запрацавалі мы на хлеб свой, ваш, усіх. Будзем так працаваць, каб у будучым годзе гэта буханка была большай і смачнейшай! — Звычайныя, амаль банальныя словы сказаў, ды чаму так ціха слухалі яго? Чаму гэта ніхто не рассмяяўся, не скрывіўся?» (стар. 52).**

**Рэдлінскі гаворыць шчыра. І як кожная шчырасць выклікае спачатку пляткарскую цікавасць, якая невядома калі пераўтвараецца ў сардэчнае перажыванне. «Параграфам як дубінаю», рэч пра двух гайнаўскіх братоў, Пятра і Трафіма, жыццё якіх прайшло ва ўзаемных судах. Першая зацікаўленасць як і хто каго чым? канчаецца задумённасцю над тымі людзьмі, якія не разумеюць смаку жыцця, праводзяць яго быццам балельшчыкі свой час на стадыёне. З асаблівай сілай фактаў паказана гэта ў рэпартажы «Бацюшка», пра святара з Новай Волі, чалавека, які здавалася б самым лёсам прысуджаны на тое, каб не жыць, але толькі бачыць жыццё, толькі бачыць... Быццам у рэпартажы «Ля шашы», пра размову ў хаце ў вёсцы ля шашы, якая таму лічыць сябе лепшай, што яна... ля шашы.**

**Ураган цывілізацыі, які памуціў застаялае ад вякоў чыстае азерца вясковага неба, не мог не выклікаць слёз болю і нарадзін. Рэвалюцыя ў сялянскай псіхіцы, наогул душэўнае сутрасенне, моцна паказана ў дачыненні да гаспадарскіх спраў, у дачыненні да вёскі, якая крыху са здзіўленнем галубіць сваё дзіця, ахрышчанае імем СУЧАСНАСЦЬ. «Прадаю гаспадарку»..., «У ліпені аб зямлі», «Спартыўнае жыццё», «Міліянер» — вось тыя творы, пісьмы любоўныя Рэдлінскага да зямлі роднай, нашай.**

**А загаловачны твор «Я ў нервовай справе», пра арлянскую Валечку, і «Цуд», пра той заблудаўскі, і яшчэ «Пантаміма», гэта толькі цікавыя рэчы, як блішчучы прадмет, гадзіннік, або браслет, якім усё роўна ў якіх руках быць. Вось у дачыненні да тых твораў і мая прэтэнзія да Рэдлінскага, які спакусіўся на рамесны выраб як бы ў службовых гадзінах і са спакойным сном пасля працы, ноччу. А мо' гэта падарункі ягоныя каханай зямлі роднай, як дзяўчыне чарнабровай?**

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

 

# КРЫМІНАЛЬНЫ КОДЭКС

У 13-тым нумары Дзённіка законаў Польскай Народнай Рэспублікі абвешчаны закон з 19 красавіка 1969 г. «Крымінальны кодэкс». Ад 1-га студзеня 1970 года будзе ён ужывацца на месца крымінальнага кодэкса з 1932 г., які абавязвае дагэтуль.

Выдадзены ў 1932 годзе кодэкс быў дастасаваны да тагачаснай капіталістычнай рэчаіснасці і нягледзячы на некалькі пасляваенных законаў, якія забяспечвалі абарону асноўных інтарэсаў дзяржавы ў абставінах вострай класавай барацьбы, ставаўся ўсё менш дапасаваным да сацыялістычнага ладу.

Крымінальнае права служыць ахове асноўных палітычных і гаспадарчых спраў дзяржавы, а таксама паасобных грамадзян. Яго асноўнай мэтай — выхаванне грамадзян у духу пашанавання грамадскага ладу і прынцыпаў сацыялістычнага сужыцця. Пагэтаму новы крымінальны кодэкс уводзіць новыя карныя сродкі, а агранічвае да неабходных размераў прымянення кары пазбаўлення свабоды.

Крымінальны кодэкс уводзіць новыя ўстаноўкі і адпаведна змяняе старыя так, каб даць магчымасць прымяняць да віноўнікаў дробных злачынстваў сродкаў не звязаных з пазбаўленнем свабоды. З гэтай мэтай уведзена ўмоўнае спыненне судовага працэсу, кару агранічэння свабоды і адпаведна зменена ўстаноўкі ўмоўнай адтэрміноўкі кары.

Ужо ў часе дазнання пракуратар можа ўмоўна спыніць следства, калі грамадская небяспечнасць учынку нязначная, абставіны яго ўчынення выснены, а постаць віноўніка дагэтуль не каранага за злачынства, яго асаблівасці характару, асабістыя ўмовы і спосаб жыцця, які існуе да гэтага часу, абгрунтоўваюць меркаванне, што нягледзячы на спыненне следства, віноўнік будзе шанаваць праўны парадак.

Умоўнае спыненне працэсу можа скарыстаць таксама суд. Ужыванне гэтай устаноўкі магчыма ў выпадках, калі за злачынства пагражае кара да трох год пазбаўлення свабоды. Віноўніку вызначаецца перыяд пробы ад 1 да 2 год.

Пры ўмоўным спыненні на віноўніка накладаецца абавязак узнагароджання шкоды, а таксама могуць быць паложаны іншыя абавязкі, як папрашэнне пакрыўджанага аб прабачэнне і выкананне грамадскай працы да 20-ці гадзін.

Калі віноўнік не выконвае паложаных на яго абавязкаў, парушае праўны парадак, а асабліва допускаецца новага злачынства, спыненае ўмоўна дазнанне або працэс падымаецца нанова.

Нязнаная дагэтуль кара агранічэння свабоды на час ад 3-х месяцаў да 2 год асноўваецца на тым, што пакараны не можа без згоды суда змяняць месцапражывання, забавязаны выконваць працу ўказаную судом, не можа выконваць кіраўнічых абавязкаў у грамадскіх арганізацыях, мусіць складаць выясненні суду адносна ходу адбывання кары.

Суд вызначае пакаранаму надзараваную працу на публічныя патрэбы — размерам ад 20—50 гадзін у месяц. Калі пакараны працуе ў грамадскім прадпрыемстве, то суд замест працы можа загадаць вылічвання з зарплаты ад 10—25% у карысць дзяржавы або на адзначаныя судом грамадскія мэты. Пакараны не можа звольніцца з працы ў часе адбывання кары і не можа быць авансаваны.

Калі прыгавораны судом на агранічэнне свабоды ўхіляецца ад яе выканання, суд замяняе яе на грашовы штраф лічачы ад 1 да 3-х тысяч злотых за месяц, а таксама можа яе замяніць на пазбаўленне свабоды, лічачы месяц пазбаўлення за месяц агранічэння свабоды.

Крымінальны кодэкс пашырае магчымасці ўжывання ўмоўнай адтэрміноўкі кары. Калі злачынства ўчынена няўмысна, можа быць умоўна адтэрмінавана кара да трох год пазбаўлення свабоды, а пры злачынстве ўмысным — да двух год. Суд можа пры гэтым налажыць на пакаранага грашовы штраф нават у выпадку, калі за дадзенае злачынства ён не прадбачаны. Суд можа забавязаць пакаранага да направы шкоды, прашэння пакрыўджанага аб прабачэнне, выконванне абавязкаў платы аліментаў, або выконванне грамадскіх павіннасцей, зарабляць на жыццё або паступіць на вучобу, паўстрымацца ад піцця алкаголю, або паддацца лячэнню і іншае.

Усе гэтыя сродкі служаць выхоўванню віноўніка злачынства ў меру магчымасці без пазбаўлення свабоды і без адрыву яго ад працы ў прадпрыемстве, ад гаспадаркі або ад вучобы. У гэтым праяўляецца сацыялістычны гуманізм новага крымінальнага кодэкса.

**Юрыст**

## У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ




Больш дваццаці гадоў будаваў сабе кар'еру. Недасыпаў, недаядаў, па начах сядзеў над горбамі кніжак, прагна глытаючы зачараваную ў іх мудрасць. Потым вучыўся мудрасці жыцця. Мудрасці кар'еры і хітрасці кар'еры. Быў кемлівым вучнем. Маючы сорак з лішнім гадоў меў уласную аўтамашыну, добрую, высокааплачваемую пасаду, раскошную кватэру, прыгожую жонку, дзяцей. Словам — усё!

Меў цяжкае, працавітае дзяцінства. У дзесяць гадоў жыцця выслалі яго пасвіць каровы. Босымі нагамі позняй восенню таптаў белую ад марознага інею траву і наежаную чортапалохам пожню. Пакінуўшы пашу, каровы і родную вёску зрабіў усё, каб быць як найдалей ад гэтага свайго дзяцінства. Каб з жэстаў, вопраткі і паводзін сцерці ўсялякі след, найдрабнейшы нават пыл сялянскага выгану. Каб ніхто і ніішто не напаміналы яму яго пастуховай мінуўшчыны — каб сцерці яе вобраз і памяць.

Рабіў кар'еру. Завузіў круг знаёмых да тых, якія вызначалі шлях яго жыцця, былі яму ўзорам і да тых, якія спадарожнічалі яго кар'еры. Завузіў размовы да тых, якія дадавалі яго жыццёваму шляху новага бляску. Замяніў словы на выказванні, жэсты на дэманстрацыі, сустрэчы на сходы. Паслядоўна імкнуўся да мэты, якую ў канцы асягнуў.

З году ў год з простага ўрадніка цягнуўся ўгору па ступеньках бюракратычнай драбіны. Навучыўся весці размовы з начальствам так, каб выклікаць яго сімпатычнае задавальненне, з падначаленымі так, каб выклікаць у іх пашану і страх перад уладай. Навучыўся цешыцца, смяяцца, жартаваць, упадаць у злосць, у фурыю — толькі тады, калі патрабавалі гэтага справы яго пасады, яго асабістыя справы. Навучыўся хітра пазбывацца канкурэнтаў, засвойваць прыхільнікаў, дыпламатычна разыгрываць канфлікты. Навучыўся ўсе свае пачуцці, думкі, эмоцыі і дзеянні падпарадкоўваць адной адзінай мэце — безупыннага паходу ўгору.

На саракавым годзе жыцця пачуў раптоўную пустку. Пустку вакол сябе. Заўважыў, што ўсё яго акружэнне — падначаленыя, супрацоўнікі і начальнікі існуюць для яго не як асобы, а як своеасаблівыя пункты-арыенціры, сігналы добрага і дрэннага ў яго дарозе да кар'еры. Заўважыў таксама і тое, што і ён для іх не з'яўляецца асобай, персонай, а такім жа беспрадметным пунктам-арыенцірам.

Адчуў адначасова пустату і ўнутры сябе. Адчуў, што ўсё, што асягнуў: раскошнае памяшканне, мэбля, аўтамашына — з'яўляюцца нечым быццам бы нерэальным, фальшывым, так як фальшывай з'яўляецца гэтая годнасць, з якой выходзіў са свае аўтамашыны, ветлівасць, з якою запрашаў сяброў, каб падвезці на суседнюю вуліцу, прызнанне і пашана супрацоўнікаў і падначаленых.

Захацелася раптам з балючай прагай праўдзівасці, аўтэнтызму. Упершыню з сімпатыяй успомніў сяброў з халоднай асенняй пашы і захацеў хаця раз у жыцці перажыць тую непасрэдную, шчырую, простую і праўдзівую размову, якая адбывалася ў пастуховай грамадзе.

Абышоў старых сваіх сяброў і знаёмых. Тых, ад якіх да нядаўна на вуліцы адварочваў вочы. Фундаваў водку, піў, успамінаў дзяцінства, спяваў старыя пастуховыя песні, расказваў пра свінствы свае і сваіх начальнікаў.

Пасля некалькіх месяцаў звольнілі яго з пасады. Зразумеў, што іншыя робяць тое самае, што ён рабіў дагэтуль — здабываюць кар'еру. І яшчэ адно: што да свету юнацкай шчырасці, прастаты і непасрэднасці, свету дзяцінства і ранняй маладосці, свету першага кахання і першага гарачага, бескарыснага сяброўства няма павароту таму, хто раз рашуча, бестурботна ад яго адказаўся. У браме рая стаіць злосны ангел з агністым мячом, баронячы ўваходу тым, хто раз яго пакінуў.

**Рыгор Паўлюк**

## З ВАЯВОДСКАГА АГЛЯДУ АМАТАРСКІХ КАЛЕКТЫВАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У БЕЛАСТОКУ.



Танцавальны калектыў Дома літоўскай культуры ў Пуньску. Кіраўнік — Альгімант Уздзіла.
Фота Цаф — Сянько

нава спыні. Плацдарм на Бугу ўтрымлівайце. На падмацаванне накіроўваю да вас з рэзерва фронту васьмідзесяты корпус. Яго сіламі разам са сто пятым корпусам ідзіце на злучэнне з кавалерыстамі групы Пліева ў раён Януў Падляскі і прабівайцеся да Брэста. Плієву аднаму там цяжка.

Для сустрэчы 80-га корпуса і вываду яго на левы фланг арміі быў накіраваны намеснік камандарма генерал І. Ф. Барынаў. Праз нейкі час палкоўнік Елькін далажыў:

— Тэрміновая шыфроўка ад Барынава.

Чытаю: «Налётам бамбардзіроўшчыкаў праціўніка знішчана кіраванне 80-га корпуса. Камкор загінуў. Шэсць афіцэраў цяжка паранена. Рацыі выведзены са строю. Сувязь з дывізіямі наладжваецца. Барынаў».

У думках уяўляю становішча ў корпусе. Добра, што мой намеснік аказаўся там у гэты момант. Ён быў пасланы дапамагчы камандванню злучэння наладзіць кіраўніцтва войскамі. Зашлі Радзецкі, Бабкоў, Бескін, Ліпіс. Яны ўжо ведалі аб здарыўшымся.

— Што будзем рабіць, Мікалай Антонавіч?

— Назначыць Барынава пакуль на камандзіра?

— Лепшага, бадай, не прыдумаеш.

Барынаву пашла шыфроўка: «Да назначэння новага камкора прынімайце камандванне. Рыхтуйце дывізіі да ўдару ў агульным напрамку Януў Падляскі на злучэнне з 4-м кавкорпусам. Устанавіце сувязь з кавалерыстамі, хваля 27. Становішча дакладвайце». Другая шыфроўка паслана Аляксееву: «Разгортвайце войскі фронтам на Януў Падляскі. Заданне атрымаеце сёння».

Выклікалі начальніка разведкі палкоўніка Нікіціна. Ён пацвердзіў, што сілы немцаў у раёне Высокалітоўска вялікія.

— Па-мойму, там задумваецца контрудар па нашым левым флангу, — заключыў Нікіцін.

— Думаю, што праціўнік паспрабуе адкінуць корпус Аляксеева з ракаднай дарогі, затым пойдзе па ёй уздоўж левага фланга арміі, каб ліквідаваць наш плацдарм на Заходнім Бугу, — выказаў сваё меркаванне Бабкоў.

Усе згадзіліся з начальнікам штаба. Пры наяўнасці ў праціўніка танкаў удар на гэтым напрамку для нас быў бы небяспечны. Прасоўванне ж нашых войск насустрач 4-му кавалерыйскаму корпусу яшчэ больш расцягвала фронт і аслабляла сілы, утрымліваючыя дарогі на Драгічын. Але ісці на дапамогу кавалерыстам трэба. Гэтага патрабаваў і загад камандуючага фронтам, і абавязак. Са штаба фронту, як далажыў Бабкоў, папярэджвалі, што праціўнік з розных напрамкаў контратакуе кавкорпус і ён вядзе бой амаль у акружэнні.

Сувязі з кавалерыстамі няма. Запытваем штаб фронту, ці не зменены радыёхвалі. Фронт таксама не мае сувязі з кавкорпусам. Войскі 80-га і 105-га корпусаў наступалі на Януў Падляскі. Але каля полудня 22 ліпеня Барынаў далажыў, што яму давялося спыніцца, бо немцы безупынна контратакуюць вялікімі сіламі пяхоты і танкаў. Звязваюся з Аляксеевым:

— Як становішча, Дзмітры Фёдаравіч?

— Цяжка. Сільныя контратакі. За тры гадзіны дывізіі прайшлі ўсяго паўкіламетра.

Са штаба фронту паступаюць шыфроўкі з патрабаваннем далажыць становішча. У канцы дня па ВЧ выклікаў Жукаў:

— Далажыце, чаму няма сувязі з чацвёртым кавкорпусам?

— Яе не мае і штаб фронту, кавалерысты не адказваюць.

— Заданне пастаўлена вам, а не штабу фронту. Выконваеце дрэнна. Узмацняйце ўдар на паўднёвым флангу.

Жукаў не слухаў тлумачэнняў. Ён быў заняты ўдарам левага крыла 1-га Беларускага фронту на Ковель. Бадай, усё франтавое камандванне, кінуўшы сілы на Ковель, глыбока не ўнікала ў склаўшыеся цяжкасці ў нас з Раманенкам. Усе лічылі, што перад франтам 48-й і 65-й у праціўніка ўсё яшчэ няма сіл.

# У БАЛГАРЫІ

У тыпаграфіі «Балкан» у Сафіі надрукавана цікавую кніжку-альбом «Балгарская сярэдневяковая культура». Гэта перагляд найбольш каштоўных помнікаў балгарскага мастацтва таго часу. Прыемна адзначыць, што сярод паказаных фрэскаў знаходзяцца і тыя, над аднаўленнем якіх працавала наша зямлячка з Беласточчыны і былая супрацоўніца «Нівы», мастак Люба Красоўская, пражываючая зараз у Балгарыі.

Гэта фрэскі: «Спячы Хрыстос Эмануіл» у царкве каля Берэндэ, «Прарокі» у царкве св. Георгія ў Сафіі і інш. (ся)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПАРТЫЙНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ І СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ

Партыйная арганізацыя ў Ласінцы многа ўвагі прысвячае павышэнню сельскагаспадарчай вытворчасці. На сваіх сходах, а часцей на пасяджэннях грамадскага камітэта ПАРП абмяркоўваюцца такія справы як: павышэнне кантрактацыі збожжа, павелічэнне кантрактацыі жывёлы, а таксама большай закупкі мінеральных угнаенняў.

Сакратар КГ Сцяпан餐Каролька робіць шмат намаганняў, каб партыйныя арганізацыі паасобных вёсак сталі на ўзроўні сваіх абавязкаў, каб былі сапраўднымі арганізатарамі прагрэсу на вёсках.

(СХ)

## УРАЧЫСТАЕ ЗАКАНЧЭННЕ

21 чэрвеня г. г. ў гайнаўскім беларускім ліцэі адбылося ўрачыстае заканчэнне школьнага года. На пачатку ўрачыстасці дырэктар школы мгр Аляксандр Іванюк выступіў з прамовай да вучняў. Потым моладзь ліцэя ўручыла сваім настаўнікам кветкі. Пасля гэтага найлепшыя і найактыўнейшыя вучні атрымалі кніжныя і рэчавыя ўзнагароды. Трэба падкрэсліць і тое, што адбылася таксама мастацкая частка, якую падрыхтавала настаўніца Е. Кшэўская. Вучань I-га класа выканаў на акардэоне некалькі песень. Прыгожа спяваў таксама Юрка Харкевіч. Пад канец мастацкай часткі вучаніцы II «а» класа выканалі танец «Казачок».

Усе яны былі апрануты ў чырвоныя сукенкі з беларускімі народнымі матывамі і ўзорамі. Калі ўсё закончылася, вучні ліцэя разышліся па сваіх класах, дзе атрымалі ад сваіх выхавацеляў пасведчанні.

Вучаніца **Люба Ярашэвіч**
бел. ліцэй у Гайнаўцы

## ВАСІЛЬ СЕГЕНЬ

Васіля Сегеня кожны ведае і паважае не толькі ў Рэпісках, але і ў навакольных вёсках. Ён першы пачаў працаваць на гаспадарцы па-новаму выкарыстоўваючы сучасную агратэхніку. Ён перадавік у працы на гаспадарцы, а таксама ў грамадскай працы. З'яўляецца ад даўжэйшага часу солтысам, а нядаўна выбралі мы яго радным у ГРН у Ласінцы. Цяпер ён з падвойнай энергіяй працуе на карысць вёскі, намагаецца ўладжваць усе хвалюючыя справы паасобных гаспадароў. Адным словам, з'яўляецца ён сапраўдным слугою народа.

**М. Ялаў**
Рэпіскі

## КРЫНКАЎСКАЯ ГАРБАРНЯ

Гарбарня ў Крынках мадэрнізуецца і разбудоўваецца. Усё гэта звязана са значным павелічэннем прадукцыі і рабочых. Зараз працуе там 100 чалавек, а праз нейкі час будзе працаваць 200 чалавек. Поўны кошт інвестыцыі разам з ачышчальняй сцёкаў асягне 60 мільёнаў зл.

Будзе тут сучасная фабрыка, якая дасць многім крынкаўчанам працу.

**(хс)**

## ЗАБАБОНЫ

У Рэпісках Марыся накінулася на Кацярыну масай нецэнзурных слоў. «Гэта твае ўрэдныя вочы, каб яны табе павылазілі, прычыніліся да таго, што мая карова мала малака дае».

Марыся вылаялася, амаль не пабіла Кацярыну, усё зрабіла так, як шаптуха казала. А казала яна прыкладна так. «Па-суседску з табою жыве, гэта зладзейка, вочы яе знічшальныя. Мусіш ты выказаць ёй усё гэта так, каб ёй адхацелася на другі раз заглядаць на выме тваёй каровы».

І часта ў Рэпісках можна пачуць сварку на гэтую тэму. Вось як у нас яшчэ ёсць. Проста сярэдневякоўе.

**Т. Міх.**
Гайнаўскі павет




**Дарагое Сэрцайка!**

Нядаўна я скончыла 19 год. Паўгода таму я пазнаёмілася на забаве з Віцем. Ён прыгожы, ветлівы, добры хлапец. Усе мае сяброўкі мне цяпер зайздросцяць. Мы часта сустракаемся. Віця працуе ў бліжэйшым гарадку і часта прыязджае да мяне, на вёску. Бацькам маім таксама вельмі спадабаўся. Нядаўна Віця сказаў маім бацькам, што рашыў ажаніцца са мною. Бацькі згадзіліся. Я таксама вельмі задаволена. Віця, прыязджаючы да мяне, заўсёды прывозіў мне кветкі, шакалады і іншыя дробныя рэчы (падарункі). Цяпер мы дамовіліся, што я маю паехаць да яго бацькоў, да сваіх будучых цесцяў. Не ведаю, Сэрцайка, як апрануцца, каб спадабацца бацькам Віці. Мама мая раіць мне, каб я таксама паехала з кветкамі. Не ведаю, ці так выпадае паехаць толькі з кветкамі і больш нічога. А калі трэба яшчэ што-небудзь з сабой узяць, дык што? Парай.

**Аня з Бельшчыны**

Аня! Апранайся прыгожа, аднак скромна, перш за ўсё скромна. Тым больш людзі старэйшыя любяць скромных дзяўчат, хоць скромнасць не абазначае, што вопратка мае быць не модная. Аднак трэба знаць меру, не аставацца ў канцы і не выпярэджваць. Напэўна выпадае ўзяць кветкі, але на маю думку, не трэба больш нічога. Хопіць толькі кветкі і вясёлы пагодлівы настрой.

**Сэрцайка**

## ДЗІКАСЦЬ

На прыпынку ПКС у Галяковай Шыі два гады таму назад школьнікі з Барысаўкі пад кіраўніцтвам настаўнікаў пабудавалі пачакальню. Усе падарожнікі былі вельмі задаволены і ўдзячны школьнікам за іх вельмі патрэбную будову, якая ў непагодныя дні з'яўляецца неабходнай. Але найгорш, што ў нас яшчэ многа дзікасці. Ёсць людзі, якія нішчаць гэтую пачакальню. Вырываюць дошкі са столі, нішчаць сцены, на сценах выпісваюць непрыгожыя словы. Прыкра школьнікам, што іх праца, якая служыць для многіх людзей, так знішчаецца нейкімі выродкамі.

**М. Таль**
Барысаўка



**Настаўніца Марыя Харкевіч раздае пасведчанні вучням VI класа ляўкоўскай школы.**
**Фота: Я. Цялушэцкі**

## ВЁСКІ БУДУЮЦЦА

У апошнім часе некаторыя вёскі Беласточчыны пачалі вельмі хутка разбудоўвацца. Напрыклад, вёска Патока, дзе жыве 50 гаспадароў, масава прыступіла да будоўлі. На гэтую колькасць гаспадароў звыш 20 чалавек пабудавалі сабе новыя клуні. Варта адзначыць, што многа з гэтага ліку будынкаў мураваных і ўсе крытыя агнеадпорным матэрыялам, гэта значыць дахоўкаю. Апрача клуняў будуюць мураваныя хлявы і хаты. Найпрыгажэйшыя хаты пабудавалі Павел Кулеша і Пётр Герасімчук. Гэтыя хаты нічым не адрозніваюцца ад гарадскіх. Вельмі прыгожа памаляваныя і праведзена паравое ацяпленне.

У пабудове гаспадарчых будынкаў вялікую дапамогу дае дзяржава, дзе некаторыя гаспадары атрымалі каля 20.000 зл. ільготы ў падатках.

Найбольш нараканняў на афармленне планаў, сяляне мусяць дорага плаціць за план і «фаховы» нагляд.

**М. Краўчук**
Патока



**Новыя дамы ў вёсцы Койлы.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ РЭФЕРАТА ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ ВК ПАРП

Рэферат гісторыі партыі ВК ПАРП звяртаецца з просьбаю да ўсіх дзеячаў рэвалюцыйнага руху, удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а таксама тых асоб, якія бачылі Ул. І. Леніна або ўдзельнічалі ў спатканні з ім, каб пісьмова або вусна паінфармавалі Рэферат гісторыі, дзе і калі, а таксама ў якіх абставінах бачылі правадыра першай у свеце сацыялістычнай рэвалюцыі.

Усіх членаў і дзеячаў Тымчасовага рэвалюцыйнага камітэта Польшчы і рэвалюцыйных камітэтаў у тэрэне з 1920 года просіцца аб высылцы паведамленняў аб тым, дзе ў 1920 годзе дзейнічалі рэвалюцыйныя камітэты і хто быў іх членамі, падаванне будынкаў, якія былі сядзібай рэвалюцыйных камітэтаў.

Рэферат гісторыі будзе таксама ўдзячны за высылку ўспамінаў і дакументаў, якія гавораць аб дзейнасці Тымчасовага рэвалюцыйнага камітэта, а таксама яго тэрэновых органаў на Беласточчыне.

Лісты просім кіраваць па адрасу:
Wojewódzki Komitet PZPR w Białymstoku, Referat Historii Partii.

---

...Іх сабралася больш дзесяці Марый. Пастроілі ўсіх у шарэнгу, і афіцэр па чарзе падыходзіў да кожнай, браў за падбародак, зазіраў у твар.

— Гэтая? Яна? — пытаўся ў жанчыны, якая немаведама адкуль узялася тут і хадзіла за ім следам. Кожны раз, калі афіцэр спыняўся ля чарговай Марыі, жанчына няўпэўнена паціскала плячыма: можа гэтая... А можа і тая...

Нехта з прысутных ціхенька засмяяўся. Афіцэр злосна глянуў у той бок і спыніў «прадстаўленне».

— Выклікаць кожную па адной! — загадаў сваім памочнікам і, махнуўшы развітальна рукою да аднаго толькі Зубарава, хутка пайшоў да машыны.

— Д-дачушка, будзьце цвёрдай. Дрэнная, відаць, у іх даносчыца. Трымайцеся, — ціха сказаў Марыі Ярмачонак прафесар Клумаў, праходзячы міма.

...Добра, што хоць стала вядома, у чым справа. Магло быць горш... Але хто ведае, чым усё скончыцца?.. Трэці раз ужо яе, Марыю Ярмачонак, выклікаюць у СД, у той будынак, дзе быў некалі Інстытут народнай гаспадаркі, ставяць да сценкі, пагражаюць пісталетам.

— Што гаварыў вам доктар Свістуненка і што вы адказвалі яму — у такі вось дзень і ў столькі гадзін?

— Не памятаю. Ці мала пра што мы гаварылі!

— Мы напомнім. Ён сказаў: «Ці чула ты, Марыя (дык вось адкуль Марыя!), як нашы немцам усыпалі?» — а вы адказалі яму з радасцю: «Магіла ім усім будзе!» — і засмяяліся. З каго вы смяяліся? Вось яна, — кіўнуў у бок незнаёмай жанчыны, — ляжала ў палаце і праз расчыненыя дзверы чула.

Білі так, што ледзь дабралася дадому, але ўсё ж адпусцілі. Паверылі ці не паверылі, ці можа што-небудзь яшчэ хацелі выведаць пра яе, але адпусцілі. А Свістуненка знік. Ён быў малады і гарачы хлопец і даўно ўжо збіраўся пайсці да партызан, шукаў толькі зручнага моманту, і амаль палавіна бальніцы ведала пра гэты яго намер.

Ну, а цяпер ужо ў бальніцу заявілася гестапа. І не вылазіла. Кожны дзень збіралі ўсіх, ставілі да сценкі, трэслі перад носам пісталетам:

— Дзе доктар?

Аднойчы недзе каля моста на вуліцы Варашылава знайшлі труп. Пачарнелы, распухлы. Але бальнічныя «пазналі».

— Гэта наш Свістуненка, — як згаварыліся, сцвярджалі ўсе.

І гестапа адступілася...

Калі праз некаторы час прыйшла сувязная ад Свістуненкі, назвала пароль, Яўген Уладзіміравіч адразу ж паклікаў Марыю Ярмачонак:

— Дайце ўсё, што трэба.

Яна адчыніла грубку ў кабінеце прафесара — там, у папяровым скрутку, ляжала «ўсё, што трэба» для лесу, для партызан.

**(Працяг за тыдзень)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Przeciwko Bogom" (polski), 15—16. „Cierpie wino" (polski), 17—18. „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 19—20.

**Нараўка**

„Wilcze echa" (polski), 16—20.

**Нарва**

„Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 16—20.

**Чыжы**

„Wieczny kalendarz" (bułg.), 16—20.

**Дубічы Царкоўныя**

„Zosia" (radz.), 16—20.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Ucieczka w milczenie" (NRD), 16—20.

**Орля**

„Falstaff" (hiszpański), 16—20.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), „Molo" (polski), 15—18.

**Міхалова**

„Aby kwitło życie" (polski), 15—16. „Ludzie w hotelu" (franc.), 17—18. „Ruchome piaski" (polski), 19—20.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Fatalny list" (polski), 15—16. „Ludzie w hotelu" (franc.), 17—18. „Pustelnia Parmeńska" (franc.), 19—20.

**Шудзялава**

„Ubranie prawie nowe" (polski), 16—20.

**Янаў**

„Kapryśne lato" (czeski), 16—20.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Tysięczne okno" (franc.), 15—16. „Kozacy" (radz.), 17—18. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 19—20.

**Мельнік**

„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 15—16. „Kochać jak Romeo" (jugosł.), 17—18. „Krzyżacy" (polski), 19—20.

**Мілейчыцы**

„Sprawdzono min niema" (jugosł.), „Dziennik młodego małżeństwa" (hiszpański), 17—18. „Każdemu swoje" (włoski), 19—20.

### ДУБРОЙСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Wspaniałe wakacje" (rumuński,) „Kierunek Berlin" (radz.), 19—20.

**Ліпск**

„Wspaniałe wakacje" rumuński,) 19—20.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa. Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6892

